© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 30 (648) ГОД XIII 28 ЛІПЕНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

## АД ЧАГО ЗАЛЕЖЫЦЬ

Шмат ёсць гурткоў беларускага таварыства, якія належна працуюць і разгортваюць культурна-асветную дзейнасць. Але ёсць таксама і такія гурткі БГКТ, якія вельмі мала праяўляюць актыўнасці, а нават здараецца і так, што фігуруюць толькі на паперы. У чым жа справа?

Чаму адзін гурток можа добра працаваць, а другі не праяўляе дзейнасці? Перш за ўсё залежыць гэта ў многім ад старшыні гуртка, ад яго аўтарытэту, ад ініцыятыўнасці і арганізацыйных здольнасцей. Заўсёды там гурток БГКТ стаіць на вышыні сваіх заданняў, дзе праўленне гуртка супрацоўнічае з партыйнай арганізацыяй, з сельскагаспадарчым гуртком, гуртком Саюза сялянскай моладзі, з вясковай пажарнай камандай, з гуртком вясковых гаспадынь і г.д. Усе гэтыя арганізацыі таксама займаюцца культурна-асветнай дзейнасцю, і супольнае арганізаванне тых ці іншых мерапрыемстваў заўсёды прыносіць добрыя вынікі.

Большасць гурткоў БГКТ займаецца толькі аматарскім рухам. Вядома, гэта таксама добра, таму што папулярызацыя паасобных сцэнічных твораў, дэкламацыя вершаў, выконванне песень і гумару на беларускай мове з'яўцяецца папулярызацыяй беларускага слова. Забеспячэнне гуртком БГКТ мастацкай часткі на розных урачыстасцях у сваёй аколіцы з'яўляецца важнай справай. Пажадана, каб гэтыя гурткі БГКТ, апрача самадзейнасці, займаліся і грамадскімі справамі, справамі, якія хвалююць іх асяроддзе.

У многім залежыць праца гурткоў БГКТ і ад грамадскіх камітэтаў ПАРП і грамадскіх рад нарадовых. Калі грамадскі камітэт партыі і прэзідыум ГРН час ад часу праводзяць ацэнку працы паасобных гурткоў БГКТ нароўні з ацэнкай усіх існуючых арганізацый ў грамадзе, калі прыходзяць з дапамогаю гурткам БГКТ, тады члены БГКТ адчуваюць, што над імі ёсць апека і ёсць ім дапамога, тады культурна-асветная праца развіваецца. А каб такую ацэнку праводзілі КГ і ГРН, патрабуюцца ўказанні і ад КП і ад прэзідыум ПРН.

### ЭКСКУРСІЯ

Праўленне гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку 14 ліпеня арганізавала паездку ў Белавежу для свайго актыву. Экскурсанты між іншым наведалі беларускі этнаграфічны музей і музей прыроды. З абодвух музеяў вынеслі вельмі многа уражанняў.

### ЗБОРНІК ВЕРШАЎ А. БАРСКАГА

Зборнік вершаў пад загалоўкам «Жнівень слоў» Алеся Барскага Галоўнае праўленне БГКТ падрыхтавала да друку і здало ўжо ў друкарню. Кніжка гэта налічвае 190 старонак. Выйдзе яна з друку на пачатку IV квартала г.г.

### ЯШЧЭ АДЗІН ФЕСТЫН

Праўленне Гайнаўскага аддзела БГКТ 23 чэрвеня арганізавала фестын у Дубічах Царкоўных, прысвечаны 50-ай гадавіне КПП і КПЗБ. Зараз праўленне аддзеле робіць 28 ліпеня другі падобны фестын у Семяноўцы.



З КОЖНЫМ ГОДАМ НАШ ГОРАД БЕЛАСТОК ПРЫГАЖЭЕ. 27 ЛІПЕНЯ МІНУЛА 24 ГАДЫ АД ЯГО ВЫЗВАЛЕННЯ.




Мельніцкага крэйдавага завода гісторыя не надта доўгая. Напомнім толькі, што на ўласнасць дзяржавы перайшоў ён з прыватных рук у 1952 годзе. Зразумела, што трэба было многа інвеставаць і механізаваць, каб прыстасаваць яго да патрэб сучаснай прадукцыі. Зрэшты, з гадамі наступала змена прафілю прадукцыі. Мельніцкая крэйда стала знанай на ўсю краіну. Мельніцкая зямля крые багацтвы 5 мільёнаў тон высакаякаснай крэйды. Таму смела можна лічыць, што найбліжэйшая будучыня Мельніка будзе звязана з крэйдай. Аб тым, што лёс Мельніка звязаны з крэйдай, сведчыць і тое, што вельмі пашырылася прымяненне крэйды ў нашай гаспадарцы: у будаўніцтве, сельскай гаспадарцы, хімічнай прамысловасці і вырабе фарбаў і лакаў.

На мельніцкім заводзе, так як і ўсюды, неабходна было перайсці ў гаспадарчым кіраванні з наказаў на інструменты эканамічныя. Падставай былі тут пастановы VII Пленума ЦК ПАРП з 1966 г. Увядзенне змен было неабходна таму, што ўсюды назіралася тэндэнцыя да празмернага ўзросту фонду пры нізкім узросце прадукцыі, нерытмічнасць прадукцыі, што прыносіла гаспадарчыя страты, нізкая прадукцыя ў I і II дэкадзе месяца і ў I і II месяцы квартала і гонка за выкананнем плана ў III дэкадзе і месяцы квартала.

На мельніцкім крэйдавым была створана камісія да спраў рэалізацыі пастаноў VII Пленума ЦК. Праца камісіі аказалася вельмі плённай. Уплыло да яе аж 19 прапаноў, з чаго прынята ў рэалізацыю 15. Прыглядаемся ім бліжэй. Прапаноў, якія датычылі рабочых пасад, было 6, а спраў, якія датычылі тэхналогіі падрыхтоўкі прадукцыі — 4.

Чаго датычылі гэтыя прапановы? Перад усім у выніку рэалізацыі іх наступіла змена спосабу сушэння крэйды, дзякуючы чаму дасягнута лепшая прадукцыйнасць працы і на 30% паменшыліся надлінбовыя гадзіны працы апальшчыкаў печаў. Запрапанавана прыстасаваць памяшканне для сушэння дадатковай колькасці 1000 тон крэйды ў год для патрэб сельскай гаспадаркі. Пастаўлена драбілка на месца млынка, што палепшыла ўмовы працы людзей і на 20% пабольшыла прадукцыйнасць машын для мялення крэйды.

Сёння ўжо можна гаварыць аб эфектах рэалізацыі гэтых прапаноў. За 1967 год створана тут дадатковай прадукцыі на суму 387 тысяч зл., з чаго 303 тысячы залічыць трэба на рэалізацыю прапаноў. Прыём рабочых за 1967 год выкананы ў 102,1%, а прадукцыйнасць працы — у 104,1%. Яшчэ лепш выглядае прадукцыя ў першым квартале гэтага года: 145,5% адносна да планаванай велічыні. Калі параўнаем да мінулагодняга I квартала, дык сёлеташняя прадукцыя большая на 25,4%. Эфектам добрага гаспадаравання прадпрыемства з'яўляецца павелічэнне ў I квартале г.г. продажу на 29,4%.

(Працяг на стар. 5)

# ВЫПАЗЫЧАЛЬНЯ І ЖАНЧЫНЫ

У Новым Беразове ў мінулым годзе у вялікай сялянскай хаце створана клуба-кавярня, у якой штатным працаўніком з'яўляецца Ліда Аўласюк. Тут праводзіліся даволі цікавыя курсы і конкурсы, тут прыходзяць жыхары вёскі паглядзець тэлевізійныя перадачы, выпіць гарачую каву, пачытаць газету, пагуляць у шашкі і шахматы. Адным словам, клуба-кавярня, якая носіць назву «Клуб маладога селяніна», працуе даволі добра і залічваецца да перадавых у павеце. Вядома, вялікая у гэтым роля і рады клуба, якую узначальвае мясцовы аграном Іван Каўнер.

Навіной тут з'яўляецца выпазычальня пасуды, змеханізаваных прылад, якія аблягчаюць працу жанчыне.

У ёй сяляне за зусім нізкую аплату могуць пазычыць талеркі і талерачкі, сподкі і сподачкі, лыжкі і лыжачкі, відэльцы і нажы, чаркі і шклянкі, пралькі і пыласосы.

Вось, напрыклад, Серафіма Сахарчук пазычала талеркі, шклянкі, відэльцы і нажы. Яна пастанавіла арганізаваць гасціну для сваякоў. А вядома, што ў кожнай хаце столькі пасуды, колькі патрэбна яе для сям'і.

Калі хто робіць хрысціны або вяселле, таксама ў выпазычальні бярэ пасуду. Пазычаюць нават з суседніх вёсак. Нядаўна Пётр Свентахоўскі з Новага Корніна на сына вяселле шмат браў пасуды з выпазычальні ў Новым Беразове.

Многія «пральку» бяруць у выпазычальні. За суткі аплочваецца за яе 13 зл. Сума гэта невялічкая, а палёгка вялікая для жанчыны.

Пыласосы таксама максімальна выкарыстоўваюцца.

— Ёсць вялікае запатрабаванне на сокавыжымалкі, магляўніцы і сушаркі да бялізны, — гаворыць Ліда Аўласюк.

— Праўда намеснік прэзаса ГС у Гайнаўцы Аляксандр Плева абяцаў, што і гэтыя прылады закупіць для жанчын Новаберазова.

У вёсцы неабходны таксама такія пункты паслуг, як цырульні мужчынскія і дамскія.

— У нас для цырульніка мужчынскага і дамскага хапіла б работы, — заяўляюць жыхары Новаберазова. І аб гэтым ўжо ідзе часта гутарка і, напэўна, хутка дасць яна належныя вынікі.

Тут на летнія месяцы арганізоўваюцца дзяцінцы. Можна спакойна працаваць на полі і не думаць пра дзяцей, якія могуць зрабіць штосьці дрэннае, або з імі што дрэннае здарыцца. І тут неабходна успомніць аб старшыні гуртка вясковых гаспадынь Людміле Кіцэль, якая праяўляе вялікую актыўнасць для выражэння усіх праблем, якія хвалююць жанчын. А праблем заўсёды хапае. Жанчыны з Новаберазова ўжо мелі некалькі кулінарных курсаў, з якіх многа скарысталі. Цяпер дапамінаюцца арганізаваць курс, як яны кажуць, «джэмовы». Прыемна, што ўжо на вёсках жанчыны многа ўвагі прысвячаюць рацыянальнаму харчаванню.

(мх)



ЖНІВО. Пасля жняяркі трэба павязаць жыта ў снапы і паставіць у дзесяткі.
Фота: П. Зінкевіч

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### 16 ГААДВІНА РЭВАЛЮЦЫІ ААР

23 ліпеня 1952 года адбылося адно з найважнейшых здарэнняў у гісторыі Егіпта — рэвалюцыя. Пацягнула яно за сабою змены ў барацьбе егіпецкага грамадства за нацыянальнае вызваленне сваёй краіны. Аднак у сувязі з мінулагодняй агрэсіяй на Блізкім Усходзе ў гэтым годзе не было ніякіх урачыстасцей.

У гадавіну рэвалюцыі адкрыўся з'езд Усеагульнага Кангрэса Нацыянальнага арабскага сацыялістычнага саюза — адзінай палітычнай арганізацыі ў ААР. У працы з'езда прыняло ўдзел 1701 чалавек, якія прадстаўляюць 5 мільёнаў членаў саюза.

У прамове, якую меў прэзідэнт Насер, гаварылася: «Мы не з'яўляемся прыхільнікамі вайны для вайны. Калі зможам вярнуць свае правы палітычнай акцыяй — тым будзе лепш. Калі аднак не будзем магчы тэтага здзейсніць, застанецца нам толькі барацьба за вяртанне нашых правоў і вызваленне акупаваных зямель. Хочам, каб грамадская думка разумела нашае становішча. Мы павінны таксама лічыцца з інтарэсамі нашых сяброў. Барацьба разыгрываецца ў вялікай меры на міжнароднай тэрыторыі, а ўвесь свет хоча жыць у міры.

### СУСТРЭЧА НА ГАВАЙСКІХ АСТРАВАХ

Двухднёвыя перагаворы прэзідэнта Джонсана з кіраўніком сайгонскага марыянетычнага рэжыму Тхіеу адбыліся ў Ганалулу ў памяшканні штаба амерыканскага ваеннага камандвання на Ціхім акіяне.

На думку знешнепалітычных аглядальнікаў амерыканскай сталіцы, сустрэча ў Ганалулу арганізавана з мэтай абмеркавання ваеннага становішча ў Паўднёвым В'етнаме і планах далейшых амерыканскіх ваенных дзеянняў.

### НЯЛІШНЯЯ ПЕРАСЦЯРОГА

Джэймс Рэй, якога абвінавачваюць у забойстве Марціна Лютара Кінга, дастаўлены з Англіі ў ЗША. Улады Мемфіса, дзе Рэй будзе ўтрымлівацца ў гарадской турме ў чаканні суда, прынялі максімальныя меры перасцярогі. Паліцэйскія суправаджалі Рэя, калі ён выйшаў з самалёта, апрануты ў куленепрабіваемы жылет і са звязанымі рукамі. Аўтамабіль, у якім Рэя даставілі да будынка турмы, быў аснашчаны некалькімі кулямётамі. У камеры, дзе будзе змешчаны злачынца, уманціраваны дзве тэлевізійныя ўстаноўкі, з дапамогай якіх за ім будзе ажыццяўляцца пастаянны нагляд. Суд над Рэем чакаецца ў канцы верасня — пачатку кастрычніка. Усе асобы, якія будуць прысутнічаць на працэсе, павінны быць падвергнуты строгай праверцы і вобыску.

## БССР

### ПРЫТЫЦКІ

«Звязда» перадрукавала артыкул Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Сяргея Прытыцкага, змешчаны ў «Известиях» ад 13 ліпеня г.г. пад загалоўкам «Адказнасць кіраўніка».

«Якімі якасцямі павінен валодаць сучасны кіраўнік»? — такое ставіць пытанне С. Прытыцкі.

### ПОЛЬСКІЯ

Польскія фірмы замежнага гандлю «Мотаімпарт» і «Польмот» наладзілі ў Мінску выстаўку сельскагаспадарчых машын і гаражнага абсталявання: дзесяткі розных узораў машын і прылад, аўтамабіляў і абсталявання, якія выпускаюць польскія фірмы.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Лабанок, загадчык сельскагаспадарчага аддзела ЦК КПБ В. Баўрын, і іншыя асабістасці.

### НАРАЧ

Беларускім морам называюць вялікае возера Нарач. На яго берагах пабудавана многа дамоў адпачынку, санаторыяў. Маляўнічае возера з'яўляецца зараз адным з найбольшых курортаў Беларусі, на яго берагах і ў краю штогод бываюць дзесяткі тысяч турыстаў не толькі з розных куткоў Беларусі, але і заграніцы.

### «ДЖЫП»

У Мінску пабываў югаслаўскі ансамбль «Джып» — выступалі вядомыя спевакі Азра Халіловіч, Душан Якшыч, Баян Кодрыч.

### ПАСТАЯННА

Пры вуліцы Янкі Купалы ў Мінску ўзводзіцца вялікі павільён пастаянна дзейнічаючай выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі Беларускай ССР. Будоўля будзе закончана да юбілею 50-годдзя Беларускай рэспублікі.

### АГЛЯД

На прадпрыемствах Мінскага чыгуначнага вузла праводзіцца агляд культуры вытворчасці. Вялікая ўвага ўдзяляецца ўкараненню навуковай арганізацыі працы.

### ПРАТЭЗЫ

Калектыў 2-ой стаматалагічнай клінікі г. Мінска першым асвоіў выраб цэльналітых бюгельных пратэзаў з хромакобальтавага сплаву. Яны маюць павышаную трываласць, вызначаюцца прыгажосцю і зручнасцю.

### СВЯТА

Над возерам Нарач, ля новага абеліска, узведзенага ў памяць аб гераічных справах партызан Нарачанскага краю, адбылося свята працы, воінскай славы, свята песні і танца. Яно было прысвечана 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі.

Прамовы мелі: А. Караткевіч, сакратар Мінскага абкома КПБ і І. Клімаў, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, былы сакратар Віленскага падпольнага абкома.

### АРТЫКУЛ

Орган ЦК КПБ «Звязда» ад 6 ліпеня г.г. друкуе артыкул М. Заваляева і І. Рылеўскага «Корань вялікага яднання» (з гісторыі інтэрнацыянальных сувязей БССР).

## ПОЛЬШЧА

### СУПРАЦЬ ІДЭАЛАГІЧНАЙ ДЫВЕРСІІ

На тры месяцы і 5 дзён перад тэрмінам згодна з абавязацельствамі ў гонар 50-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі аддадзены ў Новай Гуце ў карыстанне слабінг вялікага пракатнага цэха, які будаваўся ў галоўнай меры дзякуючы дапамозе СССР. Слабінг з'яўляецца абсталяваннем якія дагэтуль мелі толькі СССР, Злучаныя Штаты і Федэратыўная Рэспубліка Германіі. Асноўным пунктам урачыстасці ў Новай Гуце была канферэнцыя рабочай самаўправы абодвух вялікіх калектываў — металургічнага і будаўнічага. Падчас канферэнцыі з прамоваю выступіў Прэзас Рады Міністраў тав. Юзэф Цыранкевіч.

На пачатку прэм'ер Цыранкевіч перадаў сабраным на ўрачыстасці калектывам сардэчныя віншаванні з нагоды пераможнай рэалізацыі іх прадукцыйных абавязацельстваў. Наступна прэм'ер напомніў, што ў 1967 годзе Польшча ўпершыню перакрочыла ўзровень прадукцыі сталі вышынёю ў 10 мільёнаў тон, стаючы дзякуючы гэтаму ў першым дзесятку сусветных вытворцаў сталі. Гадавая прадукцыя сталі ў пераліку на аднаго жыхара краіны дасягае зараз 330 кілаграмаў, а да вайны паказальнік гэты дасягаў толькі 43 кілаграмаў.

У далейшай частцы свайго выступлення тав. Юзэф Цыранкевіч прыпомніў гераічныя пачаткі Народнай Польшчы, указаў на значэнне рабочага руху і марксісцка-ленінскай ідэалогіі для нацыянальных інтарэсаў Польшчы, прааналізаваў складанае міжнароднае становішча. Характэрная рыса гэтага становішча ў тым, што імперыялізм, улічваючы велізарную сілу сацыялістычнага лагера, не можа атакаваць яго непасрэдна, адкрыта, таму насільвае супраць нашага лагера псіхалагічную атаку. Сродкам барацьбы імперыялізму супраць сацыялістычнага лагера з'яўляецца зараз рознага роду ідэалагічная дыверсія, накідванне сацыялістычным краінам буржуазнай, рэвізіяніцкай ідэалогіі, падкопванне кіруючай ролі партыі ў сацыялістычных краінах, распальванне ў некаторых краінах нацыяналізму, так, каб парушыць адзінства сацыялістычнага лагера і аслабіць інтэрнацыяналізм. У гэтай сітуацыі асноўным нашым заданнем з'яўляецца ўмацоўванне адзінства сацыялістычных краін.

Наступна Ю. Цыранкевіч прааналізаваў значэнне і вымову супольнага лісту прадстаўнікоў варшаўскай нарады сацыялістычных краін да Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Чэхаславакіі і ўказаў на вялікае значэнне тэзісаў на V З'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі для пабудовы сацыялізма ў нашай краіне. «Удзел ў перадз'ездаўскай дыскусіі з'яўляецца правам, але адначасова і маральным абавязкам кожнага члена партыі», — сцвердзіў у заканчэнні прэм'ер Юзэф Цыранкевіч. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРП

16 ліпеня г.г. адбыўся чарговы пленум Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку. Пленум быў прысвечаны ацэнцы працы і далейшым заданням у галіне сельскай гаспадаркі на аснове рэалізацыі заданняў IX Пленума ЦК ПАРП. На пленуме разглядаліся таксама арганізацыйныя справы, звязаныя з падрыхтоўкай да V З'езда партыі.

У праблемным дакладзе Экзекутывы ВК, які зачытаў сакратар ВК ПАРП **Станіслаў Кудла,** між іншым гаварылася аб тым, што да працы ў калектывах, якія даследвалі ўзровень сельскагаспадарчай прадукцыі ў паасобных вёсках і гаспадарствах, было заангажавана 1400 спецыялістаў. У часе доследаў і падрыхтоўкі да рэалізацыі пастановы даведзена м.інш., што 20% гаспадароў не прымяняла наогул або ў мінімальных колькасцях мінеральныя ўгнаенні. Велізарныя розніцы між паасобнымі паветамі, а ў паветах між грамадамі сведчаць аб вялікіх рэзервах у гэтай галіне. Напрыклад, у Высокамазавецкім павеце налічваецца толькі 5,6% гаспадарак, якія не прымянялі мінеральных угнаенняў, калі ў Гайнаўскім павеце гэтая катэгорыя гаспадароў дасягае 34%. У ГРН Крынкі Сакольскага павета ў сярэднім дагэтуль прымянялася толькі 11,5 кг NPK на гектар, а ў ГРН Белаусы гэтага ж павета — 51 кг на гектар. У дакладзе была мова і аб тым, што найвыразнейшым паказчыкам інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі Беласточчыны з'яўляецца факт, што ў мінулым гаспадарчым годзе беластоцкая вёска закупіла на 1/4 больш мінеральных угнаенняў, чым у папярэднія гады.

Пленум накрэсліў заданні ў гэтай галіне вясковым партыйным арганізацыям і радам нарадовым.

### СЕСІЯ ВРН

20 ліпеня г.г. у Аўгустове ўпершыню адбылася Сесія Ваяводскай рады нарадовай, прысвечаная выключна турыстычнай праблематыцы Беласточчыны. Радныя прадыскутавалі асноўныя заданні турызму, а таксама накрэслілі яго асноўныя напрамкі, дастасаваныя да патрэб і магчымасцей тутэйшага рэгіёну.

### ЦЭНТР АДПАЧЫНКУ Ў ВАСІЛЬКОВЕ

Як падарунак перад Ліпеньскім святам, жыхары Беласточчыны атрымалі прыгожы цэнтр адпачынку ў Васількове. Гэты цэнтр, ініцыятарам пабудовы якога было Прадпрыемства водаправодаў і каналізацыі, каштаваў 24 мільёны зл. Грошы на пабудову прыдзялілі: Прэзідыум МРН у Беластоку, Цэнтральная Рада Прафсаюзаў, СФОКіС і Цэнтральны фонд турызму і адпачынку.

Новы цэнтр адпачынку можа памясціць аднаразова 7,5 тысяч асоб. Займае ён паверхню 12 гектараў. Ёсць тут м. інш. два купальныя басейны.

### У СТРАШАВЕ...

...Беластоцкага павета гурток ЗМВ у гонар V З'езда партыі абавязаўся выканаць працу пры пабудове дарогі Гарадок — Вейкі. Вартасць чыну — 5 тыс зл. (ак)




**NIEDZIELA, 28.VII.**

9.55 Program dnia. 10.00 „Przypominamy, radzimy". 10.20 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa". 11.00 Przerwa. 12.05 Program dnia. 12.10 Wiadomości dziennika. 12.20 „Poezja i fantazja po polsku" („W starym kinie"). 13.20 PKF. 13.30 „Polowanie na klucz" — film („Przygody trzech muszkieterów"). 13.55 „Przemiany". 14.25 „Polacy na świecie" — teleturniej. 15.20 Felieton literacki. 15.35 Program filmowy. 16.10 „Portrety" — film „Maria Dąbrowska". 16.45 „I tu istnieje" („Piórkiem i węglem"). 17.05 „Ludzie i zdarzenia". 17.30 IX Międzynarodowy Festiwal Młodzieży i studentów — uroczystość otwarcia Festiwalu (Sofia). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Program filmowy. 20.40 „Warszawa — Moskwa. Moskwa — Warszawa" — program rozrywkowy cz. II. 21.40 „Nauczycielka francuskiego" — film fab. ang. 23.15 „Niedziela Sportowa".

**PONIEDZIAŁEK, 29.VII.**

14.00 IX Światowy Festiwal Młodzieży i Studentów. Wielki Koncert z udziałem delegacji Wietnamskiej (Sofia). 15.30 Przerwa. 17.15 Program dnia. 17.20 Wiadomości dziennika. 17.30 „Spacerkiem po kinach". 18.00 Magazyn Postępu Technicznego. 18.30 „Na zdrowie". 18.50 „Azymut" — młodz. magazyn wojskowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 V TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: G. Zapolska — „Moralność pani Dulskiej". 22.05 Program publicystyczny. 22.35 Dziennik. TV:

**WTOREK, 30.VII.**

10.00 „Głos ma prokurator" — film fab. pol. 11.15 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.05 Teleferie. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 „Niedziele na wsi". 18.50 „Bronimy bramki" — teleturniej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Lat 20 miał mój dziad" — montaż operetkowy. 20.50 „Kontakty". 21.20 „Głos ma prokurator" — film fab. pol. 22.35 Dziennik TV.

**SRODA, 31.VII.**

10.00 „Tak blisko nieba" — film fab. czechosł. 11.25 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: („Ula i świat"). 17.25 PKF. 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Koncert" — film radz. 18.10 Wszechnica TV: „Spacery Warszawskie". 18.50 „Jazz nad Odrą" (impresja finałowa Wrocławskiego Festiwalu „Jazz nad Odrą 1968 r."). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Historia bez patyny". 20.35 Estrada Literacka: K. K. Baczyński — „Śpiew z pożogi". 20.45 „Światowid". 21.15 „Dowód rzeczowy" — film. 22.05 Program publicystyczny. 22.35 Dziennik TV.

**CZWARTEK, 1.VIII.**

10.00 Cichy pokoik" i „Gipsowa figurka" — filmy TVP. 10.55 Przerwa. 17.05 Program dnia. 17.10 Wiadomości dziennika. 17.15 Dla młodych widzów: „Topacz z Zawiszy" — rep. film. w rocznicę Powstania Warszawskiego. 17.35 „Albourah" — film („Dzień pokoju"). 18.05 „Telekram" 18.15 „Wesele w Giela" — film bułg. 18.35 „Muzyka i poezja" — program muzyczny. 19.05 „Pamięć murów". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Refleksje". 20.35 „Zakazane piosenki". — film fab. pol. 22.15 „Refleksje". 22.45 Dziennik TV.

**PIĄTEK, 2.VIII.**

10.00 „Zakazane piosenki" — film fab. pol. 11.40 Przerwa. 16.30 Program dnia. 16.35 IX Światowy Festiwal Młodzieży i Studentów. Koncert solidarności z Wietnamem (Sofia). 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Teleferie. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 Program publicystyczny. 19.00 „Piosenki Tadeusza Klimowskiego" — program rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Poranny spacer" — film fab. ang. 21.30 „10 minut recenzji". 21.50 „Miasto na piasku". 22.10 Dziennik. TV.

**SOBOTA, 3.VIII.**

10.00 „Klatka dla dwojga" — film fab. czechosł. 11.25 Przerwa. 16.30 Program dnia. 16.35 IX Światowy Festiwal Młodzieży i Studentów. Koncert Galowy. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Program tygodnia. 17.25 „Byczkow się żeni" — film radz. 18.05 „Tele-Echo". 18.55 „Wieczorne rozmowy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 „Pegaz" — mag. kulturalno-artystyczny. 20.40 Program rozrywkowy. 21.40 Dziennik TV. 21.55 Wiadomości sportowe". 22.05 „Klatka dla dwojga" — film fab. czechosł




**Piątek, 26 lipca**

8.05 Nowiny. 8.15 „Dzieciom o zwierzakach". 8.30 Na polach kraju. 9.00 Dla młodzieży szkolnej. Kolumby ziemi uralskiej. 9.30 Wesołe miasteczko. 10.00 Dwa tygodnie na Kubie. Film dokumentalny. 14.00 Nowiny. 14.10 Program. 14.15 Dla dzieci. Szachy w obozie pionierskim. 14.45 Motoimport. Reportaż z wystawy maszyn rolniczych PRL. 15.20 Dni Wietnamu w BSRR. 16.00 Program telewizji kolorowej. Klub kinopodróżników. 17.00 Sztafeta nowości. 18.00 Zawody sportowe. W przerwie nowiny telewizyjne. 20.15 „5+2" Przegląd tygodniowy. 20.45 „Kurier Kremla" cz. II. 21.30 Dni Wietnamu w BSRR. 21.40 Program muzyczny.

**Sobota, 27 lipca** z

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Nowiny. 8.00 Z dniem urodzin. 8.30 Zdrowie. Popularno-naukowy program. 9.00 Dla dzieci „Ryżyk" — film. 10.25 Muzyczna szkatułka. 10.45 Teatr telewizyjny dla dzieci. „Lońka". 11.30 W związku z dniem Marynarki Wojennej ZSRR. 12.00 Tobie młodość. Do 50 rocznicy Komsomołu. 12.30 Mówią afisze. Przegląd muzyczny. 13.00 Organizacja pracy w rolnictwie. 13.30 Koncert zespołu pieśni i tańca marynarki północnej. 14.15 Tydzień ekranu błękitnego. 14.30 Program telewizji kolorowej. 16.00 Festiwal filmów. „Naczelnik Czukotki". 17.30 Zawody sportowe. W przerwie nowości. 19.30 Dni Wietnamu w BSRR. 19.45 Nowiny. 20.00 Moskwa — Warszawa. 21.00 Do 130 rocznicy J. Matejki. 21.15 Dni Wietnamu w BSRR. Nowiny.

**Niedziela, 28 lipca.**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Nowiny. 7.30 Budzik. 8.00 W związku z dniem marynarki wojennej ZSRR. 8.30 W związku z dniem pracownika handlu. 9.00 W związku z dniem marynarki wojennej. 10.20 Dla dzieci. Program z NRD. 11.00 Kiosk muzyczny. 11.30 Wiejski klub. 12.30 Dni Wietnamu w BSRR. 13.00 Amatorom gry w szachy. 13.30 Ekran dla dzieci. 14.00 Program telewizji kolorowej. 16.00 O rodzinnych stronach Jakuba Kołasa. 16.15 Dni Wietnamu. 16.35 Niezwyczajny rejs — film. 17.00 Europa, wydarzenia, kraj, problemy. 17.30 Uroczyste otwarcie IX festiwalu młodzieży i studentów. 20.40 „Warszawa — Moskwa". 21.40 Tylko fakty. Program.



© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ СВАЮ ЗЯМЛЮ?

Сярод вёсак, мястэчак і гарадоў Беласточчыны значную групу складаюць мясцовасці, назвы якіх паходзяць ад назваў рэк.

У даўнія часы рэкі адыгрывалі велізарную ролю ў жыцці чалавека. Яны стваралі цэлы комплекс неабходных для жыцця ўмоў. У далінах рэк і ручулак было нямала бязлесных або слаба залесеных абшараў, лягчэйшых пры асваенні. Рэкі былі добрымі шляхамі, асабліва ў пушчах і лясах, а таксама дадатковай крыніцай харчавання. Таму першыя пасяленні ўзнікалі пераважна ўздоўж рэк і ад іх атрымлівалі свае назвы.

У сярэдневякоўі ў некаторых раёнах Польшчы, асабліва на Мазоўшы і Падляшшы, раўчукі, сцёкі і крыніцы або нахілы над берагамі рэк людзі называлі стокамі і сточкамі. Таму і ўзніклі на Беласточчыне такія назвы мясцовасцей, як, напрыклад, Сточак у Граеўскім павеце, невялічкая вёска Сточак каля Нараўкі ў Гайнаўскім павеце, Сточак — частка Белавежы, Сточак — хутар у Сакольскім павеце, Сточак — частка вёскі Баяры ў Лапскім павеце. Некаторыя раўчукі і ручулкі па розных прычынах знікалі, але памяць аб іх захавалася ў назвах вёсак.

Ад слова «сток» узніклі таксама складаныя назвы мясцовасцей, якія пісаліся разам або асобна. Такога тыпу, як Беласток, Чарнасток, Горнасток. Слова «сток», хоць і з'яўляецца галоўнай часткай гэтых назваў, стаіць на другім месцы. На першым месцы ў такіх назвах выступае прыметнік, які акрэслівае рысу, якасць стоку (раўчука) або асяроддзя, па якім гэты раўчук цячэ, палажэнне гэтага раўчука ў адносінах да іншых пагранічных аб'ектаў.

Слова «белы», «бялы» ў назве Беласток азначаў раней колер вады стоку, над якім узнікла вёска, а пазней горад. Даўнюю раку Белы Сток, якую пазней запісвалі ў адно слова Беласток цяпер афіцыяльна называюць Белай, а жыхары горада — проста Белкай. Сёння ўсё гэта здаецца смешным і гучыць, як у казцы. Бо ж вада ў рэчцы Белай — левым прытоку Супраслі — зусім не белая, а хутчэй чорная. Падобным чынам, як Беласток, узнікла і назва Беласточак, якая азначае вёску ў Сакольскім павеце, раён горада Беластока і хутар у Беластоцкім павеце.

Першы ўспамін аб Беластоку запісаны ў 1426 годзе, калі вялікі князь Вітальд дорыць гэтую вёску Мацею з Тыкаціна. У 1547 годзе вёска Беласток перайшла да Весялоўскіх на 100 гадоў. Пётр Весялоўскі, вялікі ваявода літоўскі, узносіць тут замак, а ў 1581 годзе будуе драўляны касцёл і засноўвае пры ім парафіяльную школу. У 1617 годзе на месцы драўлянага касцёла ўзносіць новы, мураваны з цэглы. Гэты касцёл, пабудаваны на ўзгорку, стаў тады галоўным архітэктурным акцэнтам горада.

Вялікае значэнне на фармаванне Беластока як гарадскога цэнтра меў гандлёва-транспартны шлях з Варшавы ў Гродна.

У 1661 годзе вёска Беласток разам з Тыкацінскім старастваам была аддана Стэфану Чарнецкаму, а пазней як пасаг дачкі Аляксандры перайшла ў 1665 годзе ва ўладанне магнацкага роду Грыфітаў-Браніцкіх. У 1692—1726 гадах па загаду Стэфана Мікалая Браніцкага — кароннага стольніка архітэктар Тыльман з Гамерэну і іншыя перабудавалі даўні невялічкі замак Весялоўскіх на палац.

Найбольшае развіццё Беластока наглядаецца ў II палове XVIII стагоддзя, калі ўзяў яго ва ўладанне Ян Клеменс Браніцкі і асядліўся тут. Ён у 1749 годзе атрымлівае ад Аўгуста III гарадскія (магдэбургскія) правы для Беластока. Беласток меў права мець свой герб ужо ў 1745 годзе. Я. К. Браніцкі стварае ў Беластоку цэнтр адміністрацыі сваіх багаццяў, гетманскую рэзідэнцыю, размяшчае вялікі гарнізон войска, штаб і канцылярыю. Арганізуе ваенную школу будаўніцтва і інжынерыі, мярніцтва, кавалерыі, фехтавання, школу для афіцэрскіх дачок і школу адміністрацыі маёнткамі. Будуе тэатр, развівае рамясло і мануфактуры. Перад 1768 годам закладвае Новае Мяста. Ля палаца Браніцкіх быў зроблены вялікі парк з геаметрычнай сістэмай алей, які разам з суседнім Звярынцам прадстаўлялі сабой адно з найбольшых па плошчы заснаванняў бароку у краіне. Горад меў 5 брам, якія аддзялялі яго ад прыгарадаў, 11 вуліц, 3 каменныя масты. У 1772 годзе Беласток налічваў 1845 жыхароў. Да III разбору Польшчы Беласток належаў да Бельскай зямлі ў Падляшскім ваяводстве, а частка яго сённяшніх раёнаў за рэчкай Белай — да Гродзенскага павета ў Троцкім ваяводстве. У 1802—1807 гадах горад з'яўляецца ўласнасцю прускага ўрада, а затым разам з чатырма паветамі — Беластоцкім, Сакольскім, Бельскім і Драгіцкім аказваюцца далучанымі да Расіі.

Хуткае развіццё прамысловасці садзейнічала раптоўнаму ўзросту колькасці жыхароў. У 1960 годзе Беласток налічвае 13900 жыхароў, а ў 1910 годзе — ужо 80303 жыхароў. Беласток робіцца шматнацыянальным, а кожная нацыянальная група карыстаецца ўласнай мовай: польскай — інтэлігенцыя і значная частка рабочых, яўрэйскай — купцы, нямецкай — рамеснікі, беларускай — сяляне, а рускай — адміністрацыя і войска. З Беластока паходзіць стваральнік мовы эсперанта Людвік Заменгоф.

У Беластоку разгарнуўся рабочы рух. У 1918 годзе ўзнікае тут Рада Рабочых Дэлегатаў. У перыяд ад 28 ліпеня да 22 жніўня 1920 года ў Беластоку размяшчаўся першы рабоча-сялянскі ўрад — Часовы Рэвалюцыйны Камітэт Польшчы на чале з Юльянам Мархлеўскім, Феліксам Дзяржынскім, Феліксам Конам і Эдвардам Прухнякам.

Ад 1919 года Беласток з'яўляецца сталіцай ваяводства і сёння па колькасці жыхароў займае ў Польшчы дваццатае месца.

**Міхаіл Кандрацюк**

# У „ПАДЛЯСЯКАЎ" НАД БУГАМ

Мы наведалі адзін з гарцэрскіх лагераў у Вульцы над Бугам Сяміцкага павета. Арганізавала яго Камэнда Гуфца ЗГП у Бельску Падляшскім. Гэта толькі адна з форм арганізацыі адпачынку школьнікаў, якую праводзіць ЗГП Адпачывае тут разам з выхаваўцамі 150 удзельнікаў лагера. Месца вельмі прыемнае, а камендант лагера **Веслаў Фалькоўскі** і іншыя працаўнікі лагера дбаюць аб добрай апецы і, што важнае, каб дзеці былі сытыя.

Гарцэрскі лагер, які прыняў сабе назву «Падлясякі», аднак мае сваю асноўную мэту. У гэтым годзе праца вядзецца пад лозунгам **«Карычневага шнура».** Менш утаямнічаным трэба выясніць, што карычневыя шнуры носяць гарцэры, якім даверана функцыя застэмпоўвата. Іменна гарцэрскі лагер рыхтуе ўдзельнікаў да працы ў малодшагарцэрскіх дружынах і паказана прыклады арганізацыі добрага адпачынку.

— А што гэта за гук духавых інструментаў чуваць у вашым лагеры? — пытаюся В. Фалькоўскага.

— А гэта нашыя гарцэры. Маем тут 60 гарцэраў з двух духавых аркестраў — з Бельска і Сухаволі. Мэтай такой супольнай пабыўкі з'яўляецца падрыхтоўка да стварэння гарцэрскага зборнага аркестра, які мае выступіць на «Гарцэрскім музычным ліпені» у Ольштыне.

Як гарцэры вучацца ў лагеры, нам давялося пабачыць і пачуць на занятках паасобных застэмпаў. Адзін з іх рэалізаваў заданне **«Будуем свой дом».** Гарцэры тут вучыліся ставіць палаткі, упрыгожваць лагернае месца, будавалі сталовую, кухню, заняліся пабудовай спартыўнай пляцоўкі.

— А як рэалізуеце заданне **«З гарцэрам усюды добра?»** — запыталіся мы ў дружыновага.

— Шкада, што не можна гэтага ўбачыць, але пастараюся расказаць. Гарцэры маёй дружыны арганізавалі разведку ў мясцовых вёсках: Турня Мала і Дужа і Слохі. Сабралі інфармацыі адносна арганізацыі «Зялёнага прадшколля», г. зн. дзеці з гэтых вёсак, калі іх бацькі ў полі, будуць у нас у лагеры гуляць. Апрача таго, мы адшукалі ў Слохах магілу 60 тутэйшых жыхароў, памардаваных у час апошняй вайны, а таксама 3 магілы партызан. Над гэтымі месцамі народнай памяці нашыя гарцэры будуць мець апеку.

Каб рэалізаваць заданне **«Усюды маем прыяцеляў»,** запланавана сустрэча з удзельнікам заграмнічнай экскурсіі. Аб данай краіне будуць выкананы гарцэрамі фотагазеты і альбомы. Рыхтуюцца таксама мерапрыемствы: фестываль дружбы народаў, пераклічка салідарнасці з гераічным В'етнамам і збор ляснога руна.

Гарцэры пазнаёміліся з арганізацыяй адзначання вялікіх гадавін. Для гэтага створана заданне **«25 год назад і сёння».** Пры кастры гарцэры сустрэнуцца з салдатамі Войска Польскага і былымі партызанамі. Салдаты пазнаёмяць гарцэраў з ваеннымі чынамі, а таксама з правіламі вучэння салдат.

Гэта толькі некаторыя заданні лагера. Агульна яшчэ раз можна падкрэсліць, што лагер вельмі прыемны. Спецыяльных цяжкасцей тут няма, можа толькі тое, што часта цяжкавата купіць некаторыя патрэбныя тавары ў сяміцкіх крамах. Аднак і за гэта нельга мець прэтэнзіі таму, што лагер Бельскага Гуфца не зрабіў фармальнай рэгістрацыі. Здаецца, што можна і трэба мець прэтэнзію, што на 150 удзельнікаў лагера ёсць тут толькі каля 30 гарцэраў вясковага паходжання. Недахоп гэты тым большы, што большая колькасць гарцэраў знаходзіцца на вёсцы і што іх больш за ўсё трэба вучыць і паказваць, як арганізоўваць летні адпачынак.

**Аляксей Карпюк**
фота аўтара




**Табліца аб'яў дакладна інфармуе аб жыцці ўсяго лагера.**



**Сліна коціцца, а на абед трэба трошачкі пачакаць.**



**Адзін з прыямнейшых пунктаў парадку дня — абед. Удзельнікі лагера за «сталом».**

# ...ІМЯ ПАЎЛА ВАЛОШЫНА

У мястэчку Крынкі (на Сакольшчыне), старым цэнтры рэвалюцыйнага руху, колішнім мястэчку гарбароў, шаўцоў і краўцоў, гэтай слыннай «Крынкаўскай Рэспублікі» 1905 года, незадоўга будуць урачыста святкаваць 50-годдзе КПП і 20-годдзе ППР. Жывуць яшчэ героі найноўшых пасляваенных падзей, як Усевалад Анісімовіч, дзеяч ППР, і іншыя.

Святкаванні так знамянальных гадавін будуць мець розныя формы — акадэміі, сустрэчы, даклады, выстаўкі (дарэчы аб выстаўках: у беластоцкім Музеі рэвалюцыйнага руху знаходзяцца матэрыялы аб днях 1905 года ў Крынках, пішу гэта да ведама крынкаўскай партыйнай арганізацыі, варта выкарыстаць). Як не дзіўна, але ў Крынках, поўных рэвалюцыйнай славы, няма так відавочнага ўшанавання той славы ў форме адпаведных назваў хаця 1—2 вуліц. Ёсць вуліцы Польная, Бэма, Гродзенская, Новая, Беластоцкая, Сакольская, Касцельная. Няма, напрыклад, вуліцы імя Рэвалюцыі 1905 года, няма вуліцы, названай імем крынчаніна, які загінуў за справу народнай улады. Напрыклад, мястэчка Мілейчыцы ў Сямяціцкім павеце мае вуліцу імя Міхноўскага, першага сакратара Гміннага Камітэта ППР, забітага бандамі.

Непадалёку ад Крынак, у Гаркавічах, нарадзіўся і дзейнічаў **Павел Валошын,** вялікі чалавек Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У Гаркавічах, па ініцыятыве Павятовага камітэта ПАРП у Саколцы, устаноўлена мемарыяльная дошка на хаце, у якой нарадзіўся і жыў Павел Валошын, адбылася вялікая ўрачыстасць. Пекным дапаўненнем гэтага акту было б названне адной з вуліц у Крынках імем Паўла Валошына.

Стаўлю гэта пад развагу крынкаўскім партыйным і адміністрацыйным уладам, глыбока пераконаны ў слушнасці сваёй прапановы.

**С. Яновіч**



© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

**Ці ведаеце сваю зямлю?**

# БЕЛЬСК ПАДЛЯШСКІ

Горад распалажаны над ракой Белай — левым прытокам Арлянкі. У раку Белую на тэрыторыі горада ўпадае рэчка Любка. Назва горада Бельск паходзіць ад ракі Белай. У славянскіх мовах рэкі вельмі часта называлі Белай, гэта азначае, што вада ў ёй чыстая, празрыстая. У гістарычных крыніцах назва горада выступае ў выглядзе Бельск, а часам Бельско, значыць, назва сфармавалася ад кораня **бель** пры дапамозе суфікса — **-ск** **-ско.** Другая частка назвы, г.зн. Падляшскі, з'яўляецца прыметнікам ад назвы краіны Падляшша, акрэслівае і адрознівае гэты Бельск сярод шматлікіх іншых назваў мясцовасцей, якія называліся Бельск (Этнаграфічна **Падляшша** — гэта значыць, зямля, якая знаходзіцца пад Ляхамі, раскінутая ля польскіх вырубак). Толькі абодва гэтыя словы ўдакладняюць аб якой мясцовасці ідзе гаворка. У назве **Бельск Падляшскі** першы член — **Бельск** — гэта назоўнік, а другі член — **Падляшскі** — мае выгляд прыметніка.

Аб Бельску Падляшскім, а дакладней аб яго гісторыі ў XVI стагоддзі пісаў у «Ніве» № 25(280) за 24 чэрвеня 1962 года мгр Томаш Пляцкоўскі. Таму ўспомню тут толькі аб найбольш значных момантах з жыцця, гісторыі гэтага горада, прабуючы направіць некаторыя недакладнасці.

Паводле археалагічных дадзеных, ужо ў XII—XIII ст. існаваў над рэкамі Белай і Любкай горад Бельск, па якім да сённяшняга дня засталася Замкавая Гара, а па жыхарах — курганы ў наваколлі. На поўнач ад горада напэўна ўжо тады стварылася пасяленне (пазней названае Старым Горадам), а на захад ад яе торг (тэрыторыя сённяшняга горада). Першы ўспамін аб Бельску паходзіць з 1252 года. Спачатку Бельск належаў да Галіцка-Уладзімірскай Русі і часта змяняў уладароў. Нарэшце быў прылучаны да Кароны, у 1569 годзе Бельск Падляшскі як каралеўскі горад быў сталіцай вялікай Бельскай зямлі і сядзібай земскага суда ў Падляшскім ваяводстве. Горад развіўся на месцы гандлёвага пасялення, ведучы ажыўлены гандаль з Каронай, Літвой і Прусіяй.

У 1430 годзе в. кн. Вітальд устанавіў войта ў Бельску, а ў 1440 годзе Уладзіслаў, князь полацкі, прызнаў яму хэлмінскія правы. Магдэбургскае права горад атрымаў у 1495 г. ад вялікага князя Аляксандра Ягелончыка, які зацвердзіў прывілей в.кн. Вітальда.

На працягу XVI ст. горад развіўся гаспадарча. У 1576 г. налічвалася каля 4000 жыхароў. Меў шмат зямлі, да яго належалі 6 вёсак, якія называліся прадмесцямі. У Бельску было тады 2 касцёлы і 5 цэркваў (адна з бальніцай у вёсцы Грэдэлі, ад чаго паходзіць назва вёскі Шпіталі, якая сёння з'яўляецца часткай Грэдэляў).

У XVI і XVII ст. горад некалькі разоў быў знішчаны пажарамі і войнамі, пасля якіх не змог ужо дабіцца ранейшага значэння. У 1710 годзе прайшла праз Бельск зараза, а ў 1779 г. горад зноў згарэў. Адбудаваны пасля пажару горад меў 320 дамоў і 1733 жыхары. Насельніцтва займалася галоўным чынам сельскай гаспадаркай і гандлем. Вызваленне прыгонных сялян і адкрыццё чыгункі Брэст-Кёнігсберг спрыяла павелічэнню насельніцтва. У 1897 годзе ў Бельску было каля 7500 жыхароў, з гэтай польская мова была роднай для прыблізна 1000 жыхароў, яўрэйская — для 4000 тыс., усходнеславянскія мовы — для 2300 жых., татарская — для 15 жыхароў. Каля 1900 года горад меў 23 невялікія прамысловыя прадпрыемствы, з якіх найбольшае — тэкстыльнае прадпрыемства давала працу 22 рабочым. У XIX ст. жыў і працаваў у Бельску вядомы гісторык Юзэф Ярашэвіч. У 1961 годзе ў горадзе налічвалася 11.172 жыхароў.

**Міхал Кандрацюк**

# АДДЗЕЛ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У чытальні Варшаўскага Універсітэта ёсць аддзел беларускай літаратуры, прызначаны для камплектавання навуковых выданняў (кніжак) аб беларускай літаратуры. На жаль, аддзел гэты складаецца ўсяго з двухтомнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры», — выданне Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі Навук БССР.

Тым часам, аддзелы украінскай, славацкай, літоўскай ці македонскай літаратур значна багацейшыя рознымі выданнямі і на розных мовах. (ся)

# УКРАІНСКІЯ АМАТАРЫ З ЛІСАЎ



**Украінскі аматарскі калектыў з вёскі Лісы.**

Вёска Лісы падобная да многіх іншых вёсак у Галдапскім павеце. Жыхары вёскі паходзяць з розных рэгіёнаў Польшчы, але найбольш тут украінцаў (65%). У вёсцы ёсць бібліятэка, клуб «Руху», а пры ўкраінскім гуртку грамадска-культурнага таварыства паспяхова разгортвае сваю дзейнасць мастацкі калектыў, а таксама аматарскі калектыў пры бацькоўскім камітэце мясцовай школы.

З самадзейнікамі пры гуртку УГКТ працуе настаўніца Анна Назаровіч. Членамі гэтага калектыва з'яўляюцца сяляне і іх жонкі, людзі, якія цяжка працуюць на гаспадарцы, а вольныя хвіліны ад працы прысвячаюць разгортванню самадзейнасці. Калектыў гэты штогод падрыхтоўваў п'есы, з якімі выступаў у сваёй і суседніх вёсках. Апошнім часам калектыў з вёскі Лісы выдзяліўся ў II фестывалі украінскай песні і музыкі ў Кэнтшыне, які быў арганізаваны Галоўным праўленнем УГКТ.

А было гэта так. Анна Назаровіч выбрала людзей з найлепшымі галасамі сярод старэйшых людзей вёскі і ўзяліся да работы. Мы раздабылі таксама шмат песень і строяў з ваколіц Хэлмна у Люблінскім ваяводстве. 26 мая на агляд у Бані Мазурскія прыехалі мастацкія калектывы з Ольштынскага і Беластоцкага ваяводстваў.. Агляд аматарскіх калектываў быў вялікім святам украінскай песні. Мы атрымалі высокую ацэнку і журы закваліфікавала нас на другі цэнтральны фестываль украінскай песні ў Кэнтшыне.

У Кэнтшыне 29 і 30 чэрвеня прысутныя мелі магчымасць паслухаць прыгожыя украінскія песні з ваколіц Хэлмна і пабачыць народныя, таксама вельмі прыгожыя, строі. Нашыя выканаўцы песень выступілі там добра. Тут варта падкрэсліць ахвярнасць людзей, якія пасля цяжкай працы дбаюць аб тым, каб у поўны голас гучэла украінская народная песня.

**Богдан Назаровіч**
вёска Лісы
Галдапскі павет

# МІЖГУРТКОВАЯ БАЗА

Міжгуртковая машына-трактарная база ў Аўгустове добра развіваецца. Мае яна 12 трактараў з поўнымі камплектамі сельскагаспадарчых машын і поўнасцю забяспечвае змеханізаваную апрацоўку зямлі для вёсак Аўгустова, Малінова і Вароне.

Узначальвае гэтае спецыфічнае прадпрыемства здольны арганізатар А. Пархоменка.

**М. ЯНКОЎСКІ**

БЫЛЫ КАМАНДЗІР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ "У ІМЯ РАДЗІМЫ" БЕЛАСТОЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ

# У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Ніяк нельга забыць гасціннасць людзей Беласточчыны, з якой яны прымалі нас. У вёсках Нова-Крынкі, Курашава, Лушчы і іншых сувязныя частавалі нашу групу чым толькі маглі. Памятаю, у вёсцы Лушчы, мы зайшлі да былога сакратара Чыжоўскага сельсавета (забыўся яго прозвішча). Ён прыняў нас, як дарагіх гасцей, і мы жылі ў яго доме больш сутак.

Наведалі мы і сваіх партызан — сувязных у вёсцы Відава Бельскага раёна Васіля і Уладзіміра Шаралаў, якія пазнаёмілі нас з актыўным членам антыфашысцкага камітэта Данілам Барташуком і локніцкім млынаром Рынасам. Гэтыя смелыя людзі і выдатныя канспіратары забяспечылі нам спакойны адпачынак у сваіх дамах і сустрэчу з сувязнымі суседніх вёсак.

Праходзячы вёску Дзідулі, нашы аўтаматчыкі разграмілі ў ёй малочны завод. 1 красавіка мы прышлі ў вёску Дубна, і ў доме Пятра Ляшука я зноў сустрэўся з Валодзем. Абодвум гэта сустрэча была вельмі прыемнай і радаснай. Ад яго я атрымаў падрабязныя звесткі аб становішчы ва ўсіх раёнах дзеяння нашай брыгады.

2 красавіка мы перайшлі ў зямлянку атрада імя Пархоменкі на голым бязлесным узвышшы непадалёку ад в. Снежкі і ўсяго 250—300 метраў ад тракту на Кляшчэлі, дзе размяшчаўся буйны варожы гарнізон. Гэту зямлянку пархоменцы называлі чацвёртым бункерам, бо ў іх яна была чацвёртай па ліку. Першыя тры былі адна адной меншыя, і калі ў атрадзе стала больш 20 байцоў, партызаны пабудавалі гэты бункер за дзве асеннія ночы 1943 года.

Даўжыня зямлянкі 25 метраў, а яе шырыня 2,5 метра. Сцены, падлога і столь, як і ў зямлянцы дзяржынцаў, выкладзены дошкамі. Толькі тут не было вентыляцыі, але затое мелася два выхады з адтулінамі. Ля першага выхаду змайстравана кухня, а ля другога — прыбіральня і туалетны пакойчык. У нянасце ў такой зямлянцы можна было жыць некалькі сутак, не вылазячы з яе. Тут заўсёды быў запас прадуктаў і вады на некалькі дзён. Над зямлянкай была прымайстравана антэна, але так нізка пры зямлі, што яе нельга было заўважыць нават падыйшоўшы блізка да таго месца .Уваходаў таксама нельга было заўважыць, бо вакол іх пасаджаны ў скрынках кусты ялоўцу, змайстраваны штучныя бугры і нават невялікі муравейнік.

Пархоменцы з радасцю сустрэлі нашу групу і з вялікай ахвотай увайшлі ў састаў брыгады. Тут жа ў зямлянцы быў напісан загад аб арганізацыйным афармленні чацвёртага па ліку партызанскага атрада імя Пархоменкі. Камандзірам застаўся Лявон Смірноў, а камісарам назначылі камуніста Грыгорыя Аблавацкага.

Адзін выпадак разлучыў пархоменцаў з іх утульнай зямлянкай. 7 красавіка мы вярнуліся з баявой аперацыі і спакойна адпачывалі. На пасту, ля кухоннага выхаду стаяў партызан Яша Ясняцоў. Раптам недалёка ад яго прабег перапужаны заяц. Яша ўвайшоў у зямлянку і расказаў нам гэтую навіну. А калі ён падняўся зноў на свой пост, то ўбачыў перад сабой фрыца ў зялёным шынялі. Яша адным выстралам улажыў яго на месцы і выскачыў наверх. Толькі цяпер ён заўважыў доўгую чараду падвод і гітлераўцаў.

Немцы перш не ўцямілі ў чым справа. Яны ведалі, што іх чалавек пабег па следу зайца і думалі, што гэта ён выстраліў па ім. Але яны ўбачылі, што аднекуль з-пад зямлі выбягаюць адзін за другім узброеныя людзі, і мабыць зразумелі ў чым справа. Пархоменцы хутка занялі абарону. Пачалася перастрэлка з абодвух бакоў. Яша і яго сябра Багачоў выпаўзлі на цэнтр узвышша, каб добра бачыць немцаў. Некаторыя фрыцы ўжо ішлі ў атаку, але перш адзін, потым другі... трэці... упалі мёртвымі на сырую вясеннюю зямлю, а астатнія рынуліся назад у прыдарожныя канавы. Перапуджаныя коні паімчаліся па дарозе ў Кляшчэлі. Нямецкія ваякі адстрэльваліся і паўзлі да кустоў.

Наша пазіцыя была даволі нязручнай. У выпадку падмацавання гітлераўцам, мы былі б захоплены імі на адкрытым месцы і тады давялося б адступаць пад градам куль. Было вырашана падпаліць зямлянку і адыйсці ў лагчыну, дзе пачынаўся хмызняк, а за ім віднеўся лес. Толькі цяпер мы заўважылі, што Яша і Багачоў ляжаць нерухома тварамі ўніз. Адзін наш партызан быў паранены. Немцы страцілі ў гэтым баі чатырох забітых і сем параненых.

Пархоменцы пачалі прыстасоўвацца да лагернага жыцця ў лесе і да новай баявой тактыкі: хадзіць на баявыя аперацыі не толькі ноччу, але і днём. Пасля бою ля бункера № 4 пачаўся новы перыяд іх баявой дзейнасці, ужо з лагера ў лесе недалёка ад вёскі Шышылы. Сюды ж прыбыў узвод з Белавежскай пушчы, які я выклікаў праз Аляксандра Юрчука, адпраўленага ў свой атрад 1 красавіка з сакрэтнымі пакетамі ад мяне і Валодзі ў штаб брыгады і ў штаб злучэння.

Пяць аўтаматчыкаў мы пакінулі ў дапамогу атраду Пархоменкі, а з астатнімі я выйшаў у Рудакоўскі лес, дзе размяшчаліся раз'яднаныя партызанскія групы. 11 красавіка мы былі ўжо ў гэтым лесе ў раёне вёскі Семены. Гэты лес амаль нічым не адрозніваецца ад пушчы, толькі дрэвы ў ім ужо больш дробныя. Відаць па ўсім, што ў старажытнасці гэта быў адзіны з пушчай лясны масіў.

Нас вёў партызан атрада імя Пархоменкі. Ён ведаў дзе можна сустрэць партызанскую групу, таму што між імі ўжо існавала сувязь праз «паштовыя скрынкі» ва ўмоўленых месцах. Адну з такіх «скрынак» мы знайшлі ў Лемпіцкім лесе.

На змярканні 12 красавіка да нас прышоў высокі, стройны чалавек, узростам гадоў 25—26, у суправаджэнні пяці партызан. Нават цяжка сказаць,



© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025




Члены сям'і Кілігрэў служылі пры англійскім двары міністрамі, дыпламатамі, вышэйшымі каралеўскімі чыноўнікамі. Але яны ж былі і буйнейшымі марскімі разбойнікамі, тым больш удачлівымі, што амаль усе скаргі і падазрэнні на іх нелегальную дзейнасць трывала асядалі ў цяжкіх скрынях судовых кручкатвораў і адміралцейскіх чыноўнікаў. Рука мыла руку. Праўда, часам здараліся зрывы, але з кім гэтага не бывае?!

Аднаму з атожылак гэтай герцагска-бандыцкай сям'і, шасцідзесяцігадовай ледзі Кілігрэў, належаў фамільны замак Авенак з цудоўным выглядам на мора, гавань і горад Фальмут. Юнацтва ледзі было далёка не бязгрэшным. Яе бацька, вядомы марскі бандыт Сафолка, нярэдка браў дачку з сабой у мора, і ўспрыймальная дзяўчынка многаму навучылася. З часам ледзі ахалодала ад авантур, пасялілася ў замку і спакойна дажыла да сёмага дзесятка.

І трэба ж было здарыцца, што ў гэты час адзін англійскі карабель, ратуючыся ад жорсткага шторму, кінуў якар у фальмуцкай гавані, насупраць замка Авенак. Капітан быў спакойны: ён не сумняваўся, што там, наверсе, у вежы, павінен сядзець прадстаўнік англійскай кароны, абавязаны своечасова папярэджваць горад аб паяўленні пірацкіх караблёў. Да таго ж паміж Ганзай і Англіяй у тыя часы не існавала ніякіх разладаў. Прастадушны марак нават не падазраваў, што там, у замку, ля акна, у цёпла напаленым пакоі замест урадавага чыноўніка сядзела ледзі Кілігрэў і любоўна ацэньвала яго карабель: водазмяшчэнне — сто пяцьдзесят тон і нагружаны так, што сядзіць у вадзе амаль па самую ватэрлінію. Ледзі Кілігрэў навяла даведкі і высветліла, што ў трумах карабля ляжыць вельмі каштоўны груз. Да таго ж уладальнікі карабля, двое іспанцаў, сышлі на бераг і адсыпаліся ў партавой гасцініцы.

Надвор'е не паляпшалася амаль цэлы тыдзень.

— Каторы дзень праклятае судна танцуе ў мяне пад носам. Я разглядаю гэта як нахабны выклік, — нарэшце «абурылася» гаспадыня замка і аднойчы цёмнай ноччу, набіўшы узброенай чэляддзю невялікую шхуну, бясшумна падплыла да парусніка, які мірна пагойдваўся.

Вось дзе ёй спатрэбіўся вопыт, накоплены ў юнацтве! Яна з кацінным спрытам, хутчэй за ўсіх узлезла на борт і абардажнай сякерай раструшчыла чэрап паўсоннаму вахтавому. Бандыты ціха і хутка расправіліся з экіпажам. Затым слугі паднялі ветразі і ўзялі курс на Ірландыю, вывозячы большую частку здабычы і разлічваючы там збыць яе з рук, а нястомная ледзі разам з лакеямі Кендалам і Хаўкінсам знесла па зарослай сцежцы ў замак Авенак лепшую частку нарабаванага: кавалкі першасортнага сукна з Фландрыі і дзве скрыні, набітыя звонкімі іспанскімі талерамі.

На другі дзень уладальнікі судна паднялі трывогу, але мясцовыя ўлады ветліва прапанавалі ім напісаць скаргу і афіцыяльна звярнуцца ў суд. Пасля доўгай цяганіны высокі суд пастанавіў, што судна сапраўды ўкрадзена, аднак невядома кім і як.

Іспанцы ўпарціліся. Яны адправіліся ў Лондан і дабіліся таго, што іх, нарэшце, прыняла і выслухала адна высокапастаўленая асоба. І — о цуда! — справядлівасць, здавалася, узяла верх: ледзі была арыштавана, асуджана, прызнана вінаватай у пірацтве і разам з абодвума падручнымі прыгаворана да смяротнага пакарання праз павешанне.

Праз некалькі дзён прыгаворaных вывезлі на двор і паставілі ля вісельніц. Кат па чарзе паспяхова адправіў на той свет Кендала і Хаўкінса і ўжо прыгатаваў пятлю для высакароднай ледзі, але...

*

...Феміду заўсёды паказвалі з павязкай на вачах і вагамі ў руцэ, якія сімвалізуюць непадкупнасць і аб'ектыўнасць.

Але ў даным выпадку, як і ў многіх іншых, павязка на вачах багіні была не вельмі шчыльнай і праз яе лёгка было падгледзець, хто сыпле золата для каралеўскай казны на чашу вагаў «правасуддзя», і ў апошні момант ледзі Кілігрэў была памілавана.



# І Л-62

«Іл—62» — гэта адзін з найбольшых пасажырскіх самалётаў на свеце. «Іл—62» абслугоўвае 5 асоб. Забірае ён да 186 пасажыраў. Можа развіваць хуткасць палёту да 900 км у гадзіну. Даўжыня яго 53 м. Ад паловы ліпеня такія самалёты лётаюць на трасе Масква—Нью-Йорк праз Манрэаль.




Муку дла соўса ці бліноў разводзьце ў салёнай вадзе —не будзе камячкоў.

*

Калі суп атрымаўся вельмі тлусты, працадзіце яго праз змочаную халоднай вадой сурвэтку. Значная частка тлушчу застанецца на сурвэтцы.

*

Каб какао не ўтварыла камякоў, перад тым, як заліць яго малаком або вадой, размяшайце яго з цукрам. Крыху солі, дададзенай у какао, зробіць яго больш пахучым.

*

Калі вы купілі мяса старой жывёлы, пакладзіце яго ў ваду з воцатам і дайце пастаяць дзве гадзіны (на літр вады шклянка вінаграднага воцату). Можна пры варцы ўліць у ваду лыжку воцату або лімоннага соку — мяса стане мякчэйшым і смачнейшае.

*

Пры выпечцы пірагоў змажце форму тлушчам і пасыпце маннай. Так цеста не будзе прыліпаць да сценак, а калі яно выпечацца, лёгка адстане ад формы.




Моль часцей за ўсё гняздуе ў цёмных зацішных кутках, куды не трапляе сонца і святло. Молі-мэтылькі бясшкодныя, але іх дробныя беленькія вусені — ворагі адзення і дываноў, псуюць шэрсць і футра. Асабліва прагна вусені молі праядаюць заплямленыя, прапацелыя месцы, складкі, зборкі, згібы пад каўняром і манжэтамі. Калі своечасова не звярнуць увагі, то скрыня або мяшок са старым адзеннем і маткамі шэрсці, пярына або падушка, якія даўно не ўжываліся, стануць кармушкамі для молі.

Што рабіць, калі моль ужо з'явілася? Перш за ўсё перагледзьце адзенне. Цэлыя рэчы аддзяліце ад пашкоджаных, праветрыце іх як мае быць, ачысціце ад пылу, калі можна — памыйце. Рэчы, вельмі паедзеныя моллю, — выкіньце.

Складайце ў куфар толькі чыстае адзенне. Усярэдзіне куфар або шафу пратрыце вільготнай анучкай, шчыліны заклейце папяровымі палоскамі, дно засцяліце тоўстым слоем свежай газетнай паперы і пасыпце нафталінам.

Шарсцяное адзенне, футры, паліто захоўвайце ўлетку ў шчыльных папяровых мяшках, палажыўшы туды шарыкі нафталіну або крышталы камфоры. Можна перакласці адзенне свежымі кветкамі багуну, махоркай, маленькімі кавалачкамі смалістага дрэва, сушаным палыном.

Меншыя рэчы — шалікі, шапкі, пальчаткі, пасля чысткі і мыцця пасыпце нафталінам, шчыльна загарніце ў свежую газету, якая пахне яшчэ друкарскай фарбай, і ва ўпаковачную паперу.

Моль часта гняздуе ў мяккіх крэслах, асабліва ў тых, якімі рэдка карыстаюцца. Калі моль пранікла ў крэсла знізу, яе знішчаюць воцатнай парай. Для гэтага ў вялікай плоскай каструлі закіпяціце літр воцату, крэсла да самай падлогі накрыйце прасцінай, а пад крэслам на моцна нагрэтай, але выключанай электрычнай плітцы пастаўце каструлю з кіпячым воцатам. Воцатная пара свабодна пранікае ў сярэдзіну крэсла і знішчае моль.




За дзвярыма крокі.

— Глюк? — Карцаў пытальна глядзіць на Рышэр.

— Іншы. Вальтэр.

— Ведаю: радыст?

— Ён і радыст, і кіруе кранам, і абслугоўвае электрастанцыю.

— Што гэта за станцыя? Не чуваць матора.

— Матора няма. Прыплыў і адплыў рухаюць турбіны з генератарам, а той зараджае акумулятары.

— Дзе размешчана станцыя?

— Акумулятары ў дальняй пячоры. Яна закрыта. Ключ у Вальтэра. Астатняе пад вадой. Дзе — не ведаю: тайна.

Задаючы пытанні, Карцаў думае і аб іншым. Апошнія паўгадзіны ён перабіраў у думках усё, што ведае аб сваёй пацыентцы. Ацэньваў паводзіны Рышэр, кожнае яе слова. І ўсё гэта для таго, каб пераканаць сябе загаварыць з ёю ў адкрытую.

Зноў крокі за дзвярыма, на гэты раз — некалькіх асоб, відаць, тых самых, палонных. Іх вядуць назад. Значыць, збылося!..

Крокі ў калідоры сціхаюць.

— Паслухайце, Рышэр, — гаворыць ён, — як вы сюды трапілі? Я не магу паверыць, што вы заадно з імі. Вы тут па прымусу?

— Не.

— Не? Значыць, добраахвотна?

Рышэр маўчыць.

— Тады вы пасланы да Абста з нейкім спецыяльным даручэннем, аб якім ён не здагадваецца. Я не памыліўся?

Рышэр маўчыць.

— Хто вы такая? — паўтарае Карцаў.

— А вы? — раптам пытае яна.

— Я ненавіджу нацыстаў, — гаворыць ён. — Я тут, каб змагацца з імі.

Рышэр маўчыць.

Што ведае яна аб гэтым чалавеку? Вельмі мала. Правакатар? Але Рэйнхельт бачыў, як яна здымала плыўца. Бачыў і прамаўчаў. Выцягнуў з яе тайніка касеты. Выцягнуў і... не паказаў Абсту?

А мо Абст ужо ведае аб іх?

Але, калі так, то навошта яе лечаць? Чаму пакінулі на свабодзе, не знішчылі?

Карцаў разумее яе стан.

— Вядома, — гаворыць ён, — па ўсіх правілах канспірацыі нам трэба доўга прыглядацца адзін да другога. Але ў нас няма часу. Я зрабіў першы крок. Цяпер ваша чарга. Хто вы? Разведчыца?

Рышэр пакруціла галавою.

— Не? — Карцаў разгублена трэ далоняй лоб. — А як жа камера? Здымкі? Каму спатрэбіцца ваша плёнка?

— Немцам.

— Немцам, сказалі вы? Але якім немцам? Пачакайце, пачакайце, ці часам не хочаце ўпэўніць мяне...

Рышэр паднімае руку.

— Запамятайце, — гаворыць яна, — запамятайце, Рэйнхельт: я ні ў чым не хачу вас упэўніць.

Карцаў змаўкае.

— Дайце мне сігарэту, — просіць Рышэр. — Дзякую. Скажыце, Рэйнхельт, вы даўно з Германіі?

Яны сустракаюцца позіркам, і Карцаў адчувае, што не зможа схлусіць.

— Марта, — гаворыць ён, — вы павінны ведаць: я ніколі не быў у Германіі. Я зусім не немец...

Ён расказвае аб сабе.

Закончыўшы, глядзіць на Марту.

У яе закрыты вочы, кроплі поту на лобе.

— Мы будзем змагацца разам, Марта! Але для гэтага трэба, каб вы выздаравелі. Верце, вы паправіцеся, і вельмі хутка. Толькі збярыце ўсю сваю мужнасць. Вы ж сільная, Марта!

— Не, — шэпча Рышэр, — не, не магу...

— Няпраўда! У той раз я схлусіў Абсту аб рэфлексах, якія з'явіліся ў вашых нагах. А сёння я іх намацаў! Клянуся вам, яшчэ крыху — і я буду вучыць вас хадзіць!

Рышэр рыўком сядае на ложку.

— Ды зразумейце ж, — крычыць яна, — зразумейце ж нарэшце; я ўстану на ногі, і ён заб'е вас!

Паўза. Яна памалу апускаецца на падушкі.

Ключ паварочваецца ў замку. Уваходзіць Абст.

— Закончылі, Рэйнхельт?

— Даўно, шэф.

— І так, Марта, іх прывезлі, — гаворыць Абст, калі дзверы зачыніліся за Карцавым. — Даставілі ўсіх пяцярых!

— Італьянцы?

— Так, на чале з Джорджа Пела! Як чакаў я гэтых людзей!

— Цешуся за вас.

Рышэр цягнецца за сігарэтамі, але рукі яе трасуцца, пачка падае, і сігарэты рассыпаюцца па падлозе. Абст падбірае сігарэты, падае жанчыне, працягвае і запальнічку.

— Вы нервуецеся, Марта. Чаму?

— Прычын шмат: валяюся ў ложку, калі навокал столькі спраў. Будзеце аперыраваць італьянцаў? Ці прыручыце, як Глюка і Вальтэра?



© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПРА ПАЖАР І ПРА СОЛТЫСА ЛЁНЮ

На Пятра ўспыхнуў у Старой Вёсцы пажар. Быў якраз фэст, а народ як народ — хадзіў па вёсцы п'яны ды гарланіў на ўсё горла. Гарэла Міронава клуня.

— Пажааар! — крыкнуў Міронаў Грыша так голасна, што ў паблізкіх вокнах шыбы зазвінелі.

Народ з піскам і крыкам кінуўся ў канец вёскі, дзе стаяла Міронава клуня.

Солтыс наш — Шватраў Лёнік сядзеў якраз за сталом ды даліваў гасцям надпітыя чаркі. «Пажааар!» — пачуў солтыс праз адкрытае акно. Солтыс не дакончыў наліваць пачатай чаркі. «Пажааар!» — паўтарыўся адлеглы голас на вуліцы.
Напярэдадні пятроўскага фэсту солтыс вярнуўся са шматгадзіннай нарады ў павеце. Гаварылася там аб абавязках солтыса. «Солтыс, — гаварылі на нарадзе, — адказвае за ўсё ў сваёй вёсцы. Не толькі за падаткі, але і за кантрактацыю, і за продаж угнаенняў, і за барацьбу з пустазеллем».
— Штосьці хіба гарыць! — трывожна сказаў адзін з солтысавых гасцей.
А солтысу зазвінелі ў вушах словы са ўчарашняй нарады: «Солтыс адказвае за ўсё ў сваёй вёсцы». У некалькі хвілінах пазней быў ён ужо на вуліцы — бег, колькі духу ў грудзях, да мясцовай пажарніцкай рамізы.

Камендантам пажарнай каманды ў нас Рыжы Міцька, — здаравенны мужчына, што жыве ў самым канцы вёскі. Прыбег ён пад пажарніцкую рамізу тады, калі солтыс з некалькімі мужчынамі прабаваў паламаць сталёвым ломам аграмадны пажарніцкі замок.

— Што ты робіш?! — закрычаў Рыжы Міцька.

— Адыдзі к чорту, — адказаў солтыс. — Я адказваю за ўсё ў вёсцы. — Мацней, мацней хлопцы падважце клямку, — скамандаваў памочнікам.

Рыжы Міцька забрашчаў ключамі. Пачуўшы, солтыс адвярнуўся, ды выраў ключы з рук у Міцькі.

— Аддай! Якое маеш да іх права?! — закрычаў Міцька.

Солтыс пацягнуў ключамі Міцьку па галаве. Пажарнікі кінуліся на солтыса. Солтысавыя памочнікі кінуліся на пажарнікаў. Заклубаваўся пясок, запішчалі бабы. Пачалася бойка.

Міронава клуня згарэла дашчэнту. Справу разглядаць будзе павятовы суд.

А сваёю дарогаю, шкада солтыса Лёню. Ён сапраўды пераймаўся сваімі солтысаўскімі абавязкамі, як ніводзен з солтысаў. Але пераймацца сваімі абавязкамі, аказваецца, таксама трэба ў меру.

**Рыгор Паўлюк**

---

— Неабходна аперыраваць! Згэшты, не ўсіх. Аднаго, у кожным выпадку кранаць нельга.
— Таго, чыё імя вы назвалі?
— Так. Ён патрэбны для вельмі складаных спраў.
— Разумею. Спуск да «Віперы»?
— Не толькі, — гаворыць Абст. — У мяне вялікія планы адносна выкарыстання гэтага чалавека. Вось яго мы і прыручым. Магу сказаць: я ўжо пачаў...
— Я ўсё думаю аб будучых аперацыях. — Рыэшр прыпадымаецца на локцях, заглядвае Абсту ў вочы. — Вам будзе цяжка аднаму. Мабыць, пачакаеце, пакуль я не ўстану на ногі? Удваіх было б лягчэй, шэф!
— Не магу марудзіць! Італьянцы вельмі небяспечныя. Я скарміў ім зелле. Яно будзе дзейнічаць гадзін паўтары, можа, і менш. А потым — зноў кансервы з начынкай? Зноў на гадзіну?.. А вы, мо праляжыце яшчэ дзесяць — пятнаццаць дзён... Не, не, неадкладная аперацыя! Яна супакойвае больш надзейна. Мне хопіць клопатаў з адным іх правадыром.
— Яшчэ пытанне, шэф. Вы вырашылі, што да затопленай лодкі спусціцца італьянец... Ну а наш новы лекар? Ён застанецца і будзе памагаць мне?
— Ён не можа застацца, — гаворыць Абст. — Рашэнне ўжо прынята.
І Абст выходзіць.

(Працяг будзе)

## ЛЕНІН У ГРАФІЦЫ САВЕЦКІХ МАСТАКОЎ

Стараннем Беластоцкага таварыства прыяцеляў мастацтва ў выставачнай зале прафсаюзаў на вуліцы Кюры-Складоўскай ў Беластоку адкрыта выстаўка «Ленін у графіцы савецкіх мастакоў». (вл)

## ПАГРАЖАЕ СМЕРЦЮ

Плёскаўскую вуліцу (Бельскі павет) асвятляюць электрычныя лямпачкі. Да ўключэння вулічнага святла ёсць спецыяльны ўключальнік, які знаходзіцца ў скрынцы на адным са слупоў. У гэтай скрынцы абарваліся дзверцы. А ў вёсцы ўключанне святла нікому не даверана. Уключае той, хто хоча. Заглядаюць у гэтую скрынку нават дзеці. Да гэтай пары скрынка ад уключальніка адкрыта і можа быць прычынай смерці дзяцей ад электрычнага току.

Янка
Плёскі

## НА ВЫПАДАК ПАЖАРУ

30 чэрвеня ў вёсцы Еленка (Гайнаўскі павет) у гонар V З'езда ПАРП грамадскім чынам быў выкананы супрацьпажарны басейн. У рабоце бралі ўдзел усе жыхары вёскі. Яны амаль да самага змроку ахвярна капалі зямлю. Сцены басейна цесна былі абложаны фашынай (каб не распадаліся), і пад вечар басейн быў поўнасцю закончаны. У гэтай вёсцы такі басейн вельмі патрэбен, таму што тут з вадой не вельмі багата.
У арганізацыі гэтага карыснага для вёскі чыну найбольш сілы і ахвярнасці ўлажылі Іван Баравік — мясцовы солтыс, Іван Данілюк — начальнік тутэйшай пажарнай каманды і Аркадзій Казімерук — перадавы гаспадар вёскі.

*

У Дубічах Царкоўных пры тутэйшай добраахвотнай пажарнай ахове была арганізавана нядаўна маладзёжная дружына, у склад якой увайшло 12 маладых хлопцаў.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое Сэрцайка!**

Часта чытаю твае парады і таму пастанавіла напісаць да цябе. Жыву ў вёсцы, працую на гаспадарцы. Маю 26 год. Пазнаёмілася з хлопцам з суседняй вёскі. Саша прыязджаў да мяне кожную нядзелю, прызнаўся мне ў каханні і абяцаў што ажэніцца са мной. Здарылася найгоршае, я зацяжарыла. Аднойчы я ўгаварылася з Сашам, што ён прыедзе па мяне матацыклам і забярэ ў нядзелю на забаву ў яго вёску. Я чакала, але не дачакалася. З маёй вёскі дзяўчаты ішлі на забаву і я з імі таксама выбралася. Саша са мною ніводнага танца не затанцаваў, а ўсё з іншымі дзяўчатамі. Да мяне нават не падыйшоў. Не ведаю з якой прычыны, мо людзі чаго дрэннага нагаварылі? А мо таму, што я старэйшая, бо ён мае толькі 19 год і яшчэ перад войскам. Парай, Сэрцайка, што рабіць.

Ліда
з Гайнаўшчыны

**Дарагая Ліда!** Праўду кажучы, дык я сама здзівілася, што ты, маючы 26 год, магла зрабіць такое глупства ў жыцці. Ці ж можна верыць 19-гадоваму хлопцу? Праўда, здараюцца выпадкі, што жонка многа старэйшая за мужа і жывуць вельмі добра і згодна. Нічога супраць гэтага не маю. Але ж паверыць такому маладому хлопцу ў тваім выпадку — гэта ўжо твая дурасць. Не напісала ты, ці аб гэтым ведае Саша. Таму раю табе як найхутчэй аб гэтым яго павядоміць. Калі згодзіцца, дык найлепш будзе ўзяць вам шлюб, а калі не — дык маеш дзве магчымасці: ісці да лекара, калі яшчэ не позна, або самой гадаваць. Раю перад тым параіцца са сваімі бацькамі. Можа яны будуць мець большы ўплыў на Сашу, чым ты. Бачыш, Ліда, з-за сваёй лёгкадумнасці, мусіш цяпер перанесці гэты цяжар. Іншага выхаду няма.

**Сэрцайка**

## СУСТРЭЧА СА ШВЕДАМ

**В. Швед дэкламуе свае вершы.**

15 чэрвеня у памяшканні УГКТ адбылася сустрэча членаў і сімпатыкаў БГКТ у Гданьску з паэтам Віктарам Шведам. У некалькі словах паэта прывітаў намеснік старшыні Уладзімір Паўлоўскі. Потым забраў голас Віктар Швед. Спачатку гаварыў ён на тэму дзейнасці БГКТ у Польшчы, аб яе кантактах з Савецкай Беларуссю. Расказаў таксама аб шляхах развіцця беларускай літаратуры ў Польшчы. З вялікім энтузіязмам прынялі ўдзельнікі спаткання вершы Віктара Шведа, якія дэкламаваў сам паэт. Потым пачалася дыскусія на тэму будучыні БГКТ, навязання бліжэйшай сувязі між нашым гуртком і другімі беларускімі паэтамі. У дыскусіі праявілася вялікая адказнасць членаў за развіццё БГКТ у нашым асяроддзі.

Пад канец Віктар Швед падпісаў для ахвотных зборнік сваіх вершаў «Жыццёвыя сцежкі».

Многа было на сустрэчы і членаў Украінскага таварыства. Урачыстую сустрэчу закончыла танцавальная вечарынка.

**Уладзімір Паўлоўскі**
Гданьск

**Ліст з Шудзялава**

## К. КАЗЛОЎСКАЯ ЗМУШАЕ...

Мусіць, некаторыя людзі і не хочуць ведаць, што ў Польшчы жывуць беларусы. А Казлоўская з Шудзялава нават беларусаў змушае, каб яны пісаліся палякамі. Было гэта так. 28 чэрвеня пайшоў я ў прэзідыум грамадскай рады нарадовай у Шудзялаве (Сакольскі павет), каб дастаць метрыку нараджэння і анкету да пашпарта (даводу асабістага) для дачкі. Працаўніца аддзела цывільнага стану ГРН Крыстына Казлоўская дала мне анкету на пашпарт. Я запоўніў яе. І калі ёй аддаў, яна перакрэсліла слова «беларуская», якое я напісаў у рубрыцы «нацыянальнасць» і напісала «польская», а пасля сказала, што ў нас беларусаў няма. Калі я стаў даказваць, што на Беласточчыне жывуць беларусы, і што ёсць беларускія школы, а нават ліцэі, і што не так даўно выйшла пастанова прэзідыума ВРН у Беластоку № 62(503)66 у справе дапамогі нацыянальным меншасцям, яна ў адказ сказала: «Пан дурны». Тады я паклікаў старшыню ГРН у Шудзялаве Уладзіміра Лісоўскага і запытаў у яго, ці ёсць у Польшчы беларусы. Лісоўскі парушыў плячыма і локцямі і кажа: «Або я знаю?» Я зноў пачаў даказваць, што беларусы ў Польшчы ёсць, тады ён загадаў Крыстыне Казлоўскай даць мне анкету і сказаў: «Няхай пішацца, якім хоча, толькі ў солтыса няхай гэта пацвердзіць». Тады Казлоўская кажа: «Я анкеты не дам дурню». Я адразу хацеў званіць у Саколку да прэзідыума павятовай рады нарадовай, але ніхто мне не сказаў нумара тэлефона, а Казлоўская па-свойму працягвала: «Ашалеў, ашалеў чалавек, захацелася яму Беларусі». Хацеў я паклікаць каменданта МО, але яго не было. Пасля сакратар ГРН Мар'ян Ярашэвіч загадаў Казлоўскай выдаць мне анкету, і яна выдала. А калі занёс я солтысу падпісаць анкету, ён пачаў гаварыць: «Наш кіраўнік аддзела стану цывільнага у Шудзялаве казала нам, каб у анкеце да даводаў асабістых у рубрыцы нацыянальнасць усім пісаць «польская».

**Уладзімір Хомік**
вёска Слоя
ГРН Шудзялава
Сакольскі павет

**Ад рэдакцыі:**

Думаем, што Крыстына Казлоўская яшчэ не «дарасла» працаваць на такой адказнай пасадзе. Таму ў гэтай справе павінны выказацца павятовыя, а мо і ваяводскія ўлады.

## ВАРТА ВЕДАЦЬ

У Бельскім павеце налічваецца каля 74 тысяч жыхароў. З гэтага ліку ў Бельску і Браньску жыве больш 15 тысяч, а на вёсках — больш 58 тысяч. (мх)

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

,,Człowiek, który zabił Liberty Walancea'' (USA), 30—31. ,,Szalone wakacje'' (jugosł.), 1—2. ,,Lekarstwo na miłość'' (polski), 3—4.

**Дубіны**

,,Człowiek bez paszportu'' (radz.), ,,Gorące lato'' (jugosł.), 3—4.

**Нарва**

,,Fanfan Tulipan'' (franc.), ,,Głosuję na miłość'' (jugosł.), 31.VII.—4.VIII.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Kryptonim Nektar'' (polski), ,,Mętna woda'' (węgierski), 31.VII.—4.VIII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Westerplatte'' (polski), ,,Tygrys lubi świeże mięso'' (franc.), 31.VII.—4.VIII.

**Орля**

,,Flip, Flap i inni'' (USA, 31.VII.—4.VIII.

**Райск**

,,Chewzburska ballada'' (radz.), ,,Trema'' (polski), 31.VII.—4.VIII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Daleka jest droga'' (polski), ,,Hatari'' (USA), 30.VII.—2.VIII.

**Міхалова**

,,Dni grozy i śmiechu'' (USA), 30—31. ,,Pamiętnik pani doktór'' franc.), 1—2. ,,Lekarstwo na miłość'' (polski), 3—4.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Zmierzch czarowników'' (USA), 30—31. ,,Największe widowisko świata'' (USA), 1—2. ,,Wycieczka w nieznane'' (polski), 3—4.

**Шудзялава**

,,Powrót na ziemię'' (polski), ,,Pamiętnik pani Hanki'' (polski), 31.VII.—4.VIII.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

,,Partyzanckim szlakiem'' (jugosł.), ,,Pałace w płomieniach'' (rumuński), 3—4.VIII.

**Ліпск**

,,Na tropach szpiega'' (radz.), ,,Po kruchym lodzie'' (radz.), 3—4.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6957



© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# ШКОЛЬНЫЯ ГАДЫ

**(Маналог сакратаркі)**

Алё! Хто гаворыць? Пан дырэктар заняты. Слухаю. Школьны калега? Прозвішча Завістоўскі? Зараз праверу. У мяне ёсць усе спісы школьных калег пана дырэктара. Чацвёрты клас Б? Знайшла. Так, Завістоўскі. Пан меў звычку называць пана дырэктара «бязмозглай галавой», хоць пан дырэктар гэтага не любіў. Гэта пан таксама ўкінуў пану дырэктару крапіву ў трусы на ўроку фізкультуры, а пасля, калі пан дырэктар слушна паскардзіўся настаўніцы, назваў пана дырэктара даносчыкам і паабяцаў, што зробіць яму з носа пэндзаль, і слова сваё стрымаў. Слухаю! Жарты? Магчыма, але пан дырэктар вельмі заняты. У будучым таксама не будзе мець часу. Да пабачэння. (Кладзе трубку, неўзабаве тэлефонны званок).

Слухаю! Так, сакратарыят дырэктара Кавальскага... Хто гаворыць? Пан Слупчак? Дырэктар вельмі заняты. З панам безумоўна будзе размаўляць? Ах, пан — школьны калега пана дырэктара... Так, сапраўды, прыпамінаю. Слупчак, сёмы клас В... Адну хвілінку... А, так, пан быў здольны ў матэматыцы... Ну, вядома, здараюцца такія здольнасці. Пан таксама адмовіў пану дырэктару ў шпаргалцы на экзаменах, з-за чаго дырэктар зблытаў лагарыфмы з каранямі і быў пакінуты на другі год... Так, разумею, гэта пацешна, бясспрэчна, пан дырэктар хацеў бы з панам пагутарыць і ўспомніць даўнія гады, але, на жаль, пан дырэктар не мае часу і не можа абяцаць, што будзе яго мець калі-небудзь для пана... Усяго добрага. (Кладзе трубку. Званок тэлефона).

Алё! Так, гэта сакратарыят. Хто гаворыць? Пан Гловач? Дырэктар заняты. Пан дырэктар быў вучнем пана? Калі? У пятым класе? Хвіліначку... Ці гэта пана вучні празвалі «капуста»? Ну, мянушка, як усюды... Пан, напрыклад, меў звычку называць пана дырэктара «няразвітым недарэкам» або «тупой паляй»... Так, вядома, гэта старыя ўчынкі... І гаварыў пан таксама, што пан дырэктар толькі займае ў крэсле месца, якое належыць якому-небудзь нармальна развітаму хлопцу, падкрэсліваючы пры тым, што гэта звычайная школа, а не ўстанова для недаразвітых дзяцей... Так, двойка за паўгоддзе была вялікім узрушэннем для пана дырэктара... Не, не, пан дырэктар вельмі заняты і бліжэйшыя гады ў яго таксама надта перагружаны працаю... Прашу пакласці трубку, бо ў мяне міжгародняя размова. Да пабачэння. Алё! Міжгародняя? Бяла Падляска? Так, слухаю... Хто? Славікевіч? Дарэчы, колькі разоў гаварыла, што пан дырэктар не мае часу. Вельмі важна? Што? Гэта не пан піхнуў пана дырэктара ў сажалку ў часе лекцыі пра размнажэнне жаб? А хто?... Гамбчэўскі? Як пан можа звальваць віну на калегу?.. (Кладзе трубку. Тэлефонны званок).

Слухаю! Так, пане дырэктар, разумею... Пазваніць да старшыні Гамбчэўскага і прасіць, каб знайшоў якую хвіліну часу і быў ласкавы прыняць пана дырэктара... Разумею... Так, так, школьны калега. У гэту ж хвіліну. (Набірае нумар).

Алё! Ці маю прыемнасць гаварыць з сакратаркай старшыні Гамбчэўскага? Званю па просьбе дырэктара Кавальскага. Дырэктар просіць, каб пан старшыня быў ласкавы прыняць яго... Вельмі заняты? Але ж напэўна знойдзе хвіліну часу. Дырэктар — школьны калега старшыні... Слухаю! Добра, пачакаю. Так, так, чацвёрты клас А... Так, такі невысокі... Тупая паля? Бязмозглая галава? Так, ён, гэта пан дырэктар. Даносчык? Але ж Слупчак зрабіў яму з носа пэндзаль пасля ўрока фізкультуры... Прашу? Неверагодна! Гэта ж пан старшыня піхнуў пана дырэктара ў сажалку на ўроку пра размнажэнне жаб? Дасціпны жарт! І гаварыў, што гэта яму на карысць? Што не мыецца? Вельмі пацешна! У аўторак а восьмай? Ну і ўзрадуецца пан дырэктар!

**Януш Асэнка**

# НІЎКА



— Я не буду з вамі ўпаасобку вазіцца як мама!

## 50 ГОД НАЗАД

Андрэй, ты можаш назваць тры рэчы, якіх не было 50 год назад?

— Магу, — адказвае ён. Атамнай бомбы.

— Правільна.

— Тэлебачання.

— Добра

— І... яшчэ... мяне!

## ЖЫРАНТЫ

Часта спатыкаеш сваіх жырантаў?

— Не, ніколі.

— А гэта чаму?

— Зусім проста. Яны ходзяць пехатою, а я езджу «Вартбургам».

## МУЛЯР

Муляра накіравалі да працы. Кіраўнік гаворыць да яго.

— У мяне няма для цябе работы. Маем толькі 100 цэглаў на складзе. Дык што ты будзеш рабіць?

— Не хвалюйцеся, кіраўнік. Мне хопіць іх на цэлы месяц.

## АФАРЫЗМЫ

### Х

«Салавей, — спытала жаба, — дзе б мне так навучыцца спяваць, як ты? Грошай у мяне хопіць, ды і сувязі ёсць».

## АД НЯДЗЕЛІ ДА НЯДЗЕЛІ

Падаўжэлі языкі
Ці то падзічэлі?
Хоць садзі іх пад замкі —
Так паязычэлі!
Жонка слова, а ты — сем,
На падбор, ад сэрца.
Завіхурыць, панясе —
Што адкуль бярэцца!..
Стаў прыдумваць я:
з чаго б
Нешта закарцела...
Толькі думка — бух у лоб:
Мутны панядзелак...
Круціць чортавы кругі
У вачах аўторак:
Быў выходны і другі,
А работы — горы.
Серада —
хвастоў мільён,
Беганіна, спешка...
А чацвер? Пытае ён:
«Хто тут грэшны
грэшнік?..»
Пятніцы б —
адно рашыць:
«Ці ўпякуць вымову?..»
У суботу — дом дрыжыць:
Дзень, бач, дывановы!
Той трасе і той трасе,
Жонка наступае:
«Ну, а ты што не
нясеш?» —
Бэсціць цябе, лае.
Так і круцішся штодня...
А каб жа не звадкі,
Каб не гэта калатня,
Ўсё прайшло б парадкам,
Памякчэлі б языкі
Ды пасаладзелі,
І была б у нас, браткі,
Ўсё жыццё нядзеля!

## У РЭСТАРАНЕ

Воўк і заяц разам зайшлі неяк у рэстаран.

— Прынясіце мне, калі ласка, што-кольвек без гарніру, — папрасіў заяц.

— А для вашага сябра што прынесці?

— Нічога, — адказаў воўк.

— Што вы не галодны?

— Галодны, але я пачакаю, пакуль наесца заяц.

**Васіль Зуёнак**



Конкурс на сакратарку

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Н. Лісоўскай з Беластока змяшчаем песню п.з.

# „ДНЯПРО“

Ой, Дняпро ты наш родны, любімы, —
Казка нашых шумлівых лясоў,
Слава нашай квяцістай радзімы,
Песня нашых шырокіх палёў.

Над табой разгараюцца зоры,
Над табою сады расцвілі (расцвілі),
Ты нясеш нашы думы ў прасторы,
Спевы звонкія роднай зямлі.

Не адну ты зляжыў нам быліну
Пра адважных сыноў пра сваіх,
Што тапілі варожую сілу
У кіпучых у хвалях тваіх.

Не кружыцца тут воранам чорным,
І вады ім тваёй тут не піць (тут не
піць).
Над тваёю над кручаю чорнай
Ім агнёў залатых не згасіць.

Ой, Дняпро ты наш родны, любімы, —
Казка нашых шумлівых лясоў,
Слава нашай квяцістай радзімы
Песня нашых шырокіх палёў.

І выходзім мы ранняй парою
На шырокі палетак на твой (мы на
твой),
Загараецца дзень над табою
З новай песняй і славай тваёй

# Курёзы

На вуліцах Рыму спаткаць можна стары моцна здэфармаваны самаход. На адной з шыб ёсць напіс: «Увага, з дванаццаці дарожных катастрофаў выйшаў з перамогаю».

*

Дзеці, якія жывуць у бедным раёне Лондана «Паўночны Кенсінгтон», арганізавалі дэманстрацыю, дамагаючыся больш зеляніны і месцаў на гульні. На адным транспаранце было напісана: «Хочам уміраць ад старасці, а не пад коламі самаходаў».

*

Гарадскія ўлады Дэлі трымаюць шэсць лаўцоў сабак, тры асобы пільнуюць, каб сабакам не сталася крыўда, дваццаць лаўцоў мышэй і аднаго знішчальніка шакалаў. У апошнім часе сцверджана, што колькасць забітых шакалаў у прыгарадах сталіцы Індыі зменшылася з 93 у 1965 годзе да 33 у 1966 годзе. Гарадскія ўлады сталіцы дайшлі да вываду, што стан пагалоўя шакалаў не з'яўляецца грозным і таму звольнілі з работы знішчальніка гэтых звяроў.

### Джэнтэльмен без нагі

У адной з Нью-йоркскіх газет была надрукавана аб'ява: «Шукаю джэнтэльмена без правай нагі (сам не маю левай), каб навязаць з ім суполку ў пакупцы абутку». Гэтую аб'яву перадрукавала французская газета з каментарыем: «Амерыканцам здараецца часта патраціць ногі, але ніколі яны не трацяць галоў да бізнесу».


















Перспектыўны балван заўсёды небяспечнейшы ад балвана, які ўжо дабіўся жадаемага.

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025